МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

№10 (46) КАСТРЫЧНІК 2005

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ





## ВІНШАВАННІ!



### 80 гадоў Кастусю Акулу!

16 лістапада – 80 гадоў з дня нараджэння (1925) беларускага пісьменніка і



журналіста Кастуся Акулы.

Кастусь Акула (сапраўднае імя Аляксандр Ігнатавіч Качан) – празаік, паэт, драматург. Нарадзіўся ў Вілейскім павеце. Бацька быў рэпрасаваны і загінуў у ГУЛАГу. А.Качан вучыўся спачатку ў польскай, затым у расійскай школах, падчас нямецкай акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Глыбокім, працаваў настаўнікам. У 1943 г. паступіў у Віленскую беларускую гімназію, а ў 1944-м – у афіцэрскую школу Беларускай краёвай абароны (БКА). Беларускія салдаты БКА апынуліся ў Эльзасе, перайшлі на бок французскага Супраціўлення, затым ваявалі супраць немцаў у Другім польскім корпусе генерала Андэрса, удзельнічалі ў славутай бітве за Монтэ-Касіна, дзе загінула шмат беларусаў. Аляксандр Качан быў узнагароджаны медалямі "За вайну" і "Залатой Зоркай Італіі". Скончыў Брытанскую афіцэрскую школу. У 1947 г. эміграваў у Канаду, дзе жыве дагэтуль.

Кастусь Акула – актыўны дзеяч беларускай дыяспары. Працаваў у беларускай газеце "Бацькаўшчына", якая пачала выходзіць у Мюнхене. Там жа пачаў пісаць і друкавацца ў розных беларускіх эмігранцкіх выданнях. У Канадзе шмат часу аддаваў арганізацыі беларускіх суполак, заснаванню царквы ў Таронта, працы ў нядзельных школках, рэдагаванню часопіса "Зважай", супрацоўніцтву з беларусамі ЗША, рускамоўнымі эміграцкімі часопісамі. Быў адным з арганізатараў Згуртавання беларусаў Канады і яго першым старшынёй. Наладжваў выпуск штомесячнай газеты "Беларускі эмігрант", праз якую трымалі сувязь з беларусамі, расселенымі па іншых месцах Канады. Нязменны ўдзельнік, ініцыятар нацыянальных свят, фэстаў, акцый.

Мастацкія творы, публіцыстыка К.Акулы ўносяць шмат новага, адметнага, асабліва ў нацыянальна-тэматычным плане, у сучасную беларускую літаратуру, узбагачаюць, дапаўняюць яе тэмамі, ідэямі, праблемамі, якія не закраналіся ў савецкія часы.

Шчыра віншуем паважанага спадара Кастуся Акулу з юбілеем!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

### 75 гадоў Аляксандру Баршчэўскаму!

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" мае гонар віншаваць Аляксандра Баршчэўскага (псеўданім Алесь Барскі), які адзначае свой дзень нараджэння 2 лістапада. Аляксандр Баршчэўскі нарадзіўся ў 1930 г. у Беластоцкім ваяводстве. Скончыў аддзяленне рускай філалогіі філалагічнага факультэта Лодзінскага універсітэта (1955). З 1956 г. працуе на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, з 1975 г. – загадчык гэтай кафедры. У 1959–1980 гг. – старшыня праўлення Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". З 1984 г. – старшыня галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Доктар філалагічных навук. Сябра Саюза польскіх



пісьменнікаў з 1962 г. Узнагароджаны ордэнамі Залаты крыж Адраджэння Польшчы, Кавалерскі крыж Адраджэння Польшчы, медалём імя Францыска Скарыны і інш. Выступае ў друку з 1956 г. Апублікаваў шэраг зборнікаў вершаў, займаецца перакладчыцкай дзейнасцю.

Аляксандр Баршчэўскі з'яўляецца выбітным дзеячам на ніве беларускай літаратуры і адраджэння беларускага мастацкага слова, вядомым навукоўцам, якім па праву могуць ганарыцца беларускія суайчыннікі. Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" жадае Аляксандру Баршчэўскаму далейшай плённай дзейнасці, добрага здароўя і творчых поспехаў!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

### Дні нараджэння!

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" мае гонар павіншаваць з днём нараджэння сяброў Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алега Якшэвіча (Беларусь) і Альберта Мітэра (Расія).

Жадаем ім добрага здароўя, натхнёнай працы, духоўнай і творчай самарэалізацыі.

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

### 5 год Новасібірскаму цэнтру беларускай культуры!

За пяць год цэнтр, які кіруе Ніна Кабанава, зрабіў вялікую працу па адраджэнні і вывучэнні традыцый беларускай народнай творчасці, арганізацыі фальклорных калектываў. Цэнтр падтрымлівае і развівае актыўныя сувязі з большасцю раёнаў вобласці, дзе арганізаваны яго філіялы, а таксама свае фальклорныя калектывы, якія дапамагаюць развіццю і падтрымцы беларускіх народных традыцый, абрадаў і мовы. Большасць з гэтых калектываў возьме ўдзел ў святкаванні, якое адбудзецца ў Новасібірску на пяцігоддзе Беларускага культурнага цэнтра.

У святочныя дні ў Краязнаўчым музеі адбудзецца культурна-асветная праграма, прысвечаная 515-й гадавіне з дня нараджэння Францішка Скарыны. Тады ж адбудуцца і канцэрты па раёнах вобласці і г. Новасібірску, а потым вялікае свята "Сібірскае сузор'е". У фае Палаца культуры пройдзе выстава рамёстваў, фотавыстава аб дзейнасці Цэнтра, будзе арганізавана забаўляльная праграма. Наведвальнікаў чакае сустрэча з традыцыйнымі героямі беларускага фальклору Лявонам і Лявоніхай.

*Людміла Бяляўская*

## “Адклікаюцца рэхам гады”

МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” надрукавала ў выдавецтве “Беларускі Кнігазбор” новую кнігу “Адклікаюцца рэхам гады”. Гэта зборнік вершаў беларускай паэткі з Санкт-Пецярбурга Аўгінні Кавалюк. У кнігу ўвайшлі творы апошніх гадоў, характэрныя сённяшняму настрою паэткі, яны скіроўваюць чытача на роздум аб агульначалавечых каштоўнасцях і спрадвечных пытаннях чалавека. Аўгіння Кавалюк скончыла беларускую школу і Гродзенскі педагагічны інстытут, працавала ў Рызе, а з 1987 г. жыве ў Санкт-Пецярбургу. Аўгіння Кавалюк напісала шэраг зборнікаў вершаў, якія выдаваліся з 1964 г. Яе творы перакладзены на латышскую, рускую, украінскую мовы.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## Навіны сайту

Паважаныя чытачы, Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” звяртае ўвагу на змены, якія адбыліся за апошні час на сайце аб'яднання (**zbsb.org**). На галоўнай старонцы сайту з'явілася новая рубрыка – “Агляд падзей”. Яна ўтрымлівае аналітычныя артыкулы па апошніх падзеях у Беларусі і замежжы.

Знікненне на галоўнай старонцы рубрык “Навіны беларусаў замежжа” і “Круглы стол” тлумачыцца пераразмеркаваннем гэтай інфармацыі ўнутры структуры сайтуа. Яе можна паглядзець у раздзеле “Бюлетэнь”, “Навіны беларускага замежжа”, а таксама знайсці па спасылцы “Уплыў пашырэння Еўразвязу на становішча Беларусі”, дзе змешчаны матэрыялы па “круглых сталах”.

Адбыліся таксама і змены на форуме сайту. Былі адрэдагаваныя тэмы форуму, што спрасціла дасылку і размяшчэнне звестак, заўваг і пажаданняў наконт агульнай тэматыкі і дызайну сайту. Дарэчы, кожны наведвальнік, які цікавіцца пэўнымі падзеямі ці мае пытанні, можа дасылаць іх праз форум кіраўніцтву МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”.

Адміністратар сайта і Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” запрашаюць наведаць форум сайта. Тое пытанне, што цікавіць вас, можа быць актуальным і для іншых наведвальнікаў.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

## !!! Самапаланізацыя

Яблык не падае далёка ад яблыні, гаворыць народная прыказка. Горш, калі гэта яблык разладу. А такім, напэўна, з'яўляецца рашэнне епіскапа Беластоцкага і Гданьскага Іакава наконт увядзення з нядзелі, 16 кастрычніка, польскай мовы ў багаслужбы ў дзвюх беластоцкіх цэрквах. Такім чынам беластоцкі іерарх стаўся спадкаемцам самапаланізацыйнай палітыкі Царквы, якой гарачым прыхільнікам у 30-х гадах XX стагоддзя быў епіскап Гродзенскі Сава Саветаў.

Да нас, беларусаў Беласточчыны, якія складаюць вялікую частку праваслаўных вернікаў Польшчы, вестка пра польскія богаслужбы была нечаканасцю і навіной вельмі балючай. Справа ў тым, што ў большасці нас, беларусаў, на плячах спачывае цяжар утрымлівання праваслаўнай царквы ў Польшчы. Гэта ж за нашыя, вернікаў, грошы будуюцца небачасныя храмы, якімі ўсе так захапляюцца. Нашы людзі – глыбока веруючыя, адданыя Богу і сваёй нацыянальнасці. Тое, што маюць быць набажэнствы на польскай мове, нас не толькі здзівіла, але абразіла і абурыла.

Калі ўводзіцца польская мова, дык узнікае пытанне: а чаму ж не ўвесці беларускую мову? Калі ў праваслаўных храмах на поўдні Польшчы гучыць украінская мова, дык відавочна Бог, разумее паўкраінску. Бог разумее ўсе мовы свету і быццам бы не хоча разумець толькі па-беларуску.

Думаю, што беларуская мова таксама зразумелая і мілая Богу, і Бог быў бы ўсцешаны, калі б з Беласточчыны даляталі да Яго малітвы на беларускай мове. Калі ёсць патрэба служыць для некалькіх соцень сапраўдных палякаў, якія прынялі праваслаўе па-польску – калі ласка. Але ж мы, беларусы, шматтысячная і асноўная частка ўсіх праваслаўных вернікаў, ужо ж колькі гадоў просім і дабіваемся богаслужбаў на беларускай мове. Але іх няма. Гэта для нас вельмі прыкрая справа. З боку духавенства гучаць часта тлумачэнні, што нібыта няма беларускіх перакладаў Святога Пісання. Але ж яны ёсць і пры тым па-суседску. Няўжо цяжка заказаць пераклады, якія выдала Праваслаўная царква ў Беларусі. Гэта не вялікі выдатак. Можна імі забяспечыць і святароў у прыходах, і настаўнікаў рэлігіі ва ўсіх школах. А можа Беларусь і беларускасць толькі тады добрыя, калі бясплатна даюць цэглу і іншыя будаўнічыя матэрыялы на адбудову Супрасльскага манастыра? Гаворачы аб прычынах увядзення польскай мовы, епіскап Іакаў тлумачыў, што маладыя людзі не разумеюць царкоўнаславянскай мовы і не ведаюць кірыліцы. Сумная праўда аб стане царкоўнай адукацыі. А чаму ж гэта нельга на Беласточчыне весці ў школах навучанне закону Божага для дзяцей і моладзі пабеларуску? На пачатак можна было б такія заняткі весці ў тых школах, дзе і так вядзецца навучанне беларускай мове. А потым пашыраць з карысцю для Царквы і народа. Каб быць разам. А так страчана ўжо столькі гадоў і цэлае пакаленне. Супольнымі намаганнямі можна гэты працэс змяніць, але перадусім мусіць быць добрая воля з боку Царквы. Менавіта ў гэтай дзялянцы павінен актывізаваць сваю працу пасол Яўген Чыквін. Узамен за галасы праваслаўных беларусаў можа паспрыяць, каб мы пачулі Божае слова на роднай мове. Зараз пытанне стаіць гэтак: ці мы хочам мець у царкве вернікаў, ці турыстаў. Тут справа адназначная. Калі хочам мець вернікаў, дык мова павінна быць беларуская, а калі ў цэрквах хочам мець турыстаў, каб яны не былі пустымі, то тады – польская мова.

Трэба памятаць, што моц праваслаўя ў Польшчы заўсёды асноўвалася на тым, што яно падтрымлівала моўную адметнасць. У адным выпадку, калі Царква прынцыпова ставіць націск на польскасць, гэта мне нагадвае прымусовую паланізацыю ў 1930-х гадах, але гэтым разам па сваім жаданні.

*Яўген Вапа*

КНІЖНАЯ ПАЛІЧКА

## “Невядомая Беларусь”

Выйшла кніга “Невядомая Беларусь” пры падтрымцы Беларускага цэнтра і выдавецтва “Dokoran”. Кніга – найцікавейшы зборнік эсэ вядучых беларускіх інтэлектуалаў на тэмы старажытнай і найноўшай беларускай гісторыі, культуры, палітыкі. Прадмову да кнігі напісаў Вацлаў Гавел. 17 кастрычніка адбылася прэзентацыя кнігі ў межах “Форуму-2000”, дзе ў рэжыме on-line прысутнічалі В.Гавал, А.Мілінкевіч, А.Анціпенка і інш.

*Ілля Глыбоўскі*

## Навінкі “Камуніката”

У Беларускай Інтэрнэт-бібліятэцы “Камунікат” знаходзіцца шмат беларускіх кніг і часопісаў. У тым ліку шмат выдавецкіх навінак ды некалькі кніг з серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” (заснавана МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” ў 2004 г.). Варта рэкамендаваць і кнігу “Канспіратар Беларускі”, якая нядаўна выйшла ў Беларусі і яе тыраж ужо разышоўся. Запрашаем наведаць бібліятэку “Камунікат”: **kamunikat.fontel.net**

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## “Сцяна”

У верасьнёўскім нумары часопісу “Plav Revue” пабачыў свет чэшскі пераклад апавядання Васіля Быкава “Сцяна”. Гэты пераклад зроблены вядомым перакладчыкам і вялікім прыяцелем беларушчыны ў Чэшскай рэспубліцы Адамам Гаўлінам, і быў адзначаны ганаровай прэміяй 13-га конкурсу чэшскіх перакладчыкаў імя Йіржы Левага.

*www.bielarus.org*

# "Падляшша 2005"

20-21 кастрычніка ў польскім горадзе Гайнаўка адбылася 10-я юбілейная сустрэча беларусаў Бельшчыны і Гайнаўшчыны "Падляшша 2005". Мэтай сустрэчы была інтэграцыя моладзі, аб'яднанай навучаннем у ліцэях з дадатковым вывучэннем беларускай мовы. Арганізатарам гэтай важнай імпрэзы выступіў Беларускі саюз у Польшчы на чале з Яўгенам Вапам ў супрацоўніцтве з беларускімі ліцэямі Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага.




Праграма сустрэчы была надзвычай насычанай. 20 кастрычніка ліцэісты з вялікім зацікаўленнем выслухалі выступ беларускага празаіка і грамадскага дзеяча Беласточчыны Міхася Андрасюка, а пасля і "Беларускія мроі" нашай вядомай зямлячкі з Польшчы Надзеі Артымовіч. Удзельнікаў сустрэчы віталі і слынныя беларускія пісьменнікі, што адначасна знаходзіліся ў Гайнаўцы на канферэнцыі, – Алесь Пашкевіч, Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, дырэктар зачыненага ўладамі беларускага ліцэю Уладзімір Колас.

Вельмі жывой была прэзентацыя тыднёвіка "Ніва", у якой бралі ўдзел усе журналісты, руплівай працай якіх і ствараецца сёння гэтая аўтарытэтная беларуская газета ў Польшчы.

Сустрэчу аздаблялі беларускімі песнямі ліцэісткі з Гайнаўкі, гурт "Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя. Пацешыла прысутных сваім майстэрствам і тэатральная група Гайнаўскага ліцэя пад кіраўніцтвам Яна Карчэўскага.

Ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" была запрошаная Алена Макоўская, старшыня Рады арганізацыі. Яна распавяла ўдзельнікам сустрэчы пра беларускую прысутнасць у свеце, дзейнасць "Бацькаўшчыны" і запрасіла ўсіх жадаючых да супрацоўніцтва.

Па абедзе госці ліцэю разышліся па класах, каб у непасрэднай атмасферы пазнаёміцца ды пагутарыць з ліцэістамі. Можна было папрысутнічаць на сустрэчы Клубаў беларускіх спраў з Бельска і Гайнаўкі пад кіраўніцтвам Яўгена Янчука, узяць удзел у працы гуртка іканапісу Гайнаўскага ліцэя пад кіраўніцтвам Міхала Юшчука і ў іншых, не менш цікавых сустрэчах ліцэістаў з беларускімі пісьменнікамі з Беларусі і Польшчы ды журналістамі з "Нівы".

Па заканчэнні сустрэч усе прысутныя былі запрошаны ў Беларускі музей, дзе павіншавалі паэта, перакладчыка, літаратуразнаўцу і грамадскага дзеяча Аляксандра Баршчэўскага (Алеся Барскага) з 75-гадовым юбілеем. А пасля ўдзельнікаў чакала захапляльная экскурсія па месцах гістарычнай і культурнай спадчыны беларусаў Гайнаўшчыны.



Увечары навучэнцы і настаўнікі Бельскага ліцэю развіталіся з гасціннай Гайнаўкай, каб назаўтра прымаць гасцей у сябе, у Бельску. 21 кастрычніка там адбыліся ўрачыстасці з нагоды надання беларускай школе імя Ярослава Кастыцэвіча, настаўніка і грамадскага дзеяча, які ў цяжкія паваенныя гады засноўваў беларускае школьніцтва ў Бельскім краі. Наданне школе, дзе выкладаецца беларуская мова, імя Ярослава Кастыцэвіча з'яўляецца годным ушанаваннем памяці гэтага выбітнага чалавека, сведчаннем таго, што ён не забыты, яго дзейнасць была не дарэмнай, а справа беларускамоўнага навучання на тэрыторыі Бельска, якой Ярослаў Кастыцэвіч прысвяціў вялікую частку свайго жыцця, працягвае існаваць ды развівацца і ў наш час.

Сёння ліцэі Гайнаўкі і Бельска выкладаюць беларускую мову для каля чатырох тысяч навучэнцаў і ствараюць сапраўдную канкурэнцыю польскамоўным навучальным установам з прычыны высокага ўзроўню адукацыі. Вучні ў іх набіраюцца на конкурснай аснове, і заслуга ў гэтым найперш дырэктараў беларускіх ліцэяў Яўгена Сачко (Гайнаўскі ліцэй) і Андрэя Сцепанюка (Бельскі ліцэй), а таксама настаўнікаў, што запальваюць у маладых людзях агеньчык беларускасці.

Радуе тое, што сустрэчы беларускай моладзі Падляшша носяць традыцыйны характар, бо яны з'яўляюцца сапраўдным унёскам у справу яднання беларусаў Польшчы, як і іншыя шматлікія праявы грамадскай, палітычнай, культурнай ды навуковай актыўнасці беларусаў Беласточчыны. І за ўсім гэтым стаіць цяжкая, а часамі і няўдзячная, праца і натхнёная творчасць тых, хто дапамагае сённяшняй Беласточчыне захоўваць і развіваць беларушчыну, – Яўгена Вапы, Міхася Андрасюка, Аляксандра Баршчэўскага, Алега Латышонка, Яўгена Міранoвіча, Надзеі Артымовіч і шматлікіх іншых журналістаў, навукоўцаў, грамадскіх і культурных дзеячаў, якімі багаты благаслаўлёны Беластоцкі край.




*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*На здымках: ансамбль навучэнцаў Гайнаўскага беларускага ліцэя; дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Яўген Сачко і рэдактар газеты "Ніва", старшыня Беларускага саюзу ў Польшчы Яўген Вапа; журналіст газеты "Ніва" Міра Лукша.*

## Брусель, Бельгія

Завяршыўся візіт дэлегацыі Рады БНР у Брусель. Прадстаўнікі Рады БНР сустракаліся ў Еўрапарламенце з прадстаўнікамі Еўрапейскіх камісій, якія непасрэдна займаюцца дачыненнямі з Беларуссю. Таксама адбылася размова ў офісе Высокага прадстаўніка ў справах агульнай замежнай палітыкі і палітыкі ў галіне бяспекі. Удзел у размовах бралі: старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, намеснік старшыні Сяргей Навумчык, сакратар унутраных спраў Вячка Станкевіч ды супрацоўнік сакратарыяту вонкавых спраў Мікола Пачкаеў.

З нагоды візіту Рады БНР у Бельгію кіраўніцтвам Беларуска-Еўрапейскага Задзіночання (БЭЗ) была зладжана ўрачыстая сустрэча прадстаўнікоў Рады БНР з беларускай дыяспарай у горадзе Антверпене. У якасці паважаных гасцей былі запрошаныя прадстаўнікі старой хвалі эміграцыі спадар Янка Жучка ды спадарыня Зоя Смарчок-Жэлязоўская, а таксама асістэнт Парламенцкай асамблеі НАТО Вольга Стужынская, асістэнт па праграмах у краінах Усходняй Еўропы Аліна Бельская, асістэнт віцэ-спікера Еўрапарламента Янка Чурыловіч. На заканчэнне было адзначана неабходнасць больш шчыльнага супрацоўніцтва дыяспары ў Бельгіі з Радай БНР.

Напрыканцы візіту адбылося наведванне месца пахавання Міколы Равенскага ў горадзе Лювэне. Парах беларускай грэка-каталіцкай царквы Ян Майсейчык адслужыў лідыю за спачын душы беларускага кампазітара.

*Паводле www.unija.info і радыё "Свабода"*

## Бон, Германія

25 кастрычніка ў Цэнтральнай бібліятэцы Бона адбылося адкрыццё выставы маладога беларускага мастака Яраслава Сафонава, якая называецца "Маладосць і мудрасць". Выстава ладзіцца ўпраўленнем культуры Бона, горада-партнёра Мінска, пры падтрымцы пасольства Германіі ў Беларусі. Яна адбудзецца ў межах фестывалю дзіцячай і юнацкай літаратуры "Kaept'n Book", які праводзіцца ўжо ў трэці раз. Таленавіты 12-гадовы мастак, якога горад Бон запрасіў у Германію разам з яго бацькам Вадзімам Сафонавым, асабіста прадставіць свае працы на цырымоніі адкрыцця. 21 карціну, якія будуць паказаны на выставе ў Боне, можна будзе пагледзець на працягу чатырох тыдняў.

*pahonia.promedia.by*

## Нью-Ёрк, ЗША

У кастрычніку Нацыянальны Акадэмічны Тэатр імя Якуба Коласа паехаў на гастролі ў Бостан, Нью-Ёрк і Кліўленд. Запрошаны гэты слаўны беларускамоўны тэатр праз Гарвардскі універсітэт у сувязі з сімпозіумам "Мастацтва, палітыка і нацыянальная свядомасць у сучаснай Беларусі". Тэатр падрыхтаваў творы "Шагал...Шагал..." Уладзіміра Драздова пра маладыя гады ў Віцебску сусветнавядомага мастака Марка Шагала. (пастаноўка ўдастаіла прызы ў шэрагу гарадоў Еўропы), а таксама новую п'есу Сакрата Яновіча "От Цо, Да" пра складаны лёс Браніслава Тарашкевіча – дзеяча беларускага Адраджэння.

13–15 кастрычніка ў Гарвардскім універсітэце прайшоў сімпозіум, у межах якога адбыліся выступленні віцебскага тэатра ім. Якуба Коласа. Удзельнікі мерапрыемства з Паўночнай Амерыкі, Брытаніі і Беларусі зрабілі даклады на розныя тэмы: ад музыкі і літаратуры Беларусі другой паловы XX стагоддзя да пошуку душы і культурных войнаў.

У суботу, у заключнай частцы праекту, прагучалі вершы Вальжыны Морт, адной з найвыдатнейшых беларускіх паэтак сучаснасці. А тэатр ускалыхнуў спрадвечную думку пра тое, што ты далёка ад дому, што цяжка вяртацца і не ведаць, што там цябе чакае, і не належаць ні таму, ні гэтаму свету.

16 кастрычніка у грамадскай залі пры Саборы Святога Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшоў сход Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА, на якім таксама адбылася сустрэча з акцёрамі Нацыянальнага Акадэмічнага Драматычнага Тэатру імя Якуба Коласа з Віцебску. На гэтую сустрэчу сабраліся беларусы з Нью-Ёрку і Нью-Джэрсі. 19 кастрычніка ў Нью-Ёрку адбыўся спектакль. На яго гледачы прыйшлі з дзецьмі, прынеслі кветкі і былі вельмі ўзрадаваныя, што прыехалі землякі. На сцэне вісеў вялікі плакат – "Вітаем віцебскі тэатр імя Якуба Коласа!". Дарэчы, у залі быў і пляменнік Якуба Коласа, спадар Міцкевіч, якога ўсе прысутныя віталі апладысментамі.

Прывітальнае слова сказаў старшыня Нью-Ёркскага аддзелу Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Віталь Зайка. Выступіў Зянон Пазняк, які расказаў пра гісторыю коласаўскага тэатра, зазначыўшы і імёны выбітных дзеячаў беларускага мастацтва, такіх як Стэфанія Станюта, якія пачыналі свой творчы шлях у віцебскім тэатры. Пасля гучалі беларускія песні, якія і коласаўцы, і амерыканскія беларусы спявалі разам. Пасля – Кліўленд, дзе 21 кастрычніка адбылася сустрэча з суайчыннікамі і выступленне ў Грамадскім Цэнтры "Полацак".

*www.belarusy.com*

*На здымку: Тэатр імя Якуба Коласа ў Нью-Ёрку.*



## Даўгаўпілс, Латвія

У верасні адбылося XII Свята беларускага пісьменства ў Камянцы на Брэстчыне. Напярэдадні газета "Голас Радзімы" і Міністэрства інфармацыі абвясцілі конкурс для суайчыннікаў замежжа пад назвай "Нашчадкі Скарыны" на лепшы твор аб Беларусі (літаратурны альбо паэтычны сярод дарослых і адвольнае сачыненне сярод дзяцей).

Галоўнай умовай конкурсу было пісаць па-беларуску. Пераможцаў абяцалі запрасіць на дні беларускага пісьменнасці ў Камянцы. Усяго было 12 лепшых публікацый з шасці краін: Латвіі, Украіны, ЗША, Малдовы, Польшчы, Расіі. Пяць публікацый прыйшло з Даўгаўпілса: Марына Куцына (беларуская нядзельная школа), Алена Бучэль і Ала Петашка (Даўгаўпілскі універсітэт), Настасся Сазанкова і Станіслаў Валодзька (беларускае таварыства "Уздым"). Дыпломы і падарункі ім уручаў міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч і знакаміты беларусіст, прафесар Адам Мальдзіс.

*Таццяна Бучэль*

## Даўгаўпліс, Латвія

У Даўгаўпілскім Доме культуры адбылася імпрэза "Стагоддзе латгальскай прозы; 1904–2004", дзе ўспаміналася і творчасць беларускіх аўтараў мінулага стагоддзя. Адбылося таксама галоўнае свята ў Доме Райніса у Беркенелях, што недалёка ад горада, дзе калісьці жыў Райніс. Кульмінацыяй свята стала пастаноўка па матывах твораў Райніса – сумесны латышска-беларускі праект. 34 юных акцёра прынялі ўдзел ў гэтым спек-

таклі, дзесяць з іх віцебскія, астатнія з Даўгаўпілса. Рыхтавалі пастаноўку ў Даўгаўпілсе. Аўтар праекта – Інара Мукане – кіраўнік аддзела культуры Даўгаўпілскага раёна, супрацоўнік Міністэрства культуры і шчыры наш дарадчык у многіх сумесных латышска-беларускіх святах. Дарэчы, прыемна зазначыць, што менавіта яна стала натхняльнікам для праекта па ўстаноўцы мемарыяльнай дошкі на будынку, дзе ў 20-я гады паспяхова працавала беларуская дзяржаўная гімназія. Гэта падзея была прысвечана пяцігоддзю таварыства "Уздым".

Апроч таго, адбылася сустрэча з беларускімі паэтамі у 6-й сярэдняй школе імя Райніса навучэнцаў факультатыва беларускай мовы ў межах праграмы "Адукацыя па інтарэсах". Ён існуе ў школе з мінулага года для дзяцей, якія маюць беларускія карані. Гэта вельмі сімвалічна, што менавіта ў школе імя Райніса паклалі пачатак для добрай традыцыі — вывучаць беларускую мову і культуру. Беларускі паэт г. Даўгаўпілса Станіслаў Валодзька і госця з Віцебска Вольга Русілка (загадчык кафедры беларускай літаратуры Віцебскага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава) пазнаёмілі вучняў са сваімі вершамі. Вучні падрыхтавалі літаратурную кампазіцыю на вершы Райніса (на беларускай і латышскай мовах). Сустрэча прайшла ў цёплай, добразычлівай атмасферы. Адбыўся абмен падарункамі, аўтографамі, кнігамі.

*Таццяна Бучэль*

## Рыга, Латвія

У Рызе ў Доме Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч адбылася вечарына, прысвечаная змагарам супраць нямецкага фашызму падчас Другой сусветнай вайны, салдатам і афіцэрам 2-га Польскага корпуса ў складзе 8-й Брытанскай арміі, якія ў траўні 1944 г. удзельнічаў у бітве за Монтэ-Касіна ў Італіі. Асноўную частку імпрэзы заняло адкрыццё фотавыставы, прысвечанай 2-му Польскаму корпусу, складзенай з фотадакументаў архіва Міністэрства замежных спраў Польшчы. Сабралася шмат прадстаўнікоў нацыянальных культурных таварыстваў.

Аўтар гэтых радкоў – як прадстаўнік беларускай дыяспары Латвіі і як пляменнік салдата другога Польскага корпуса – распавёў прысутным пра свайго роднага дзядзьку Уладзімера Целеша, які як і сотні беларусаў апынуўся ў войску генерала Андэрса з савецкага ГУЛАГу і разам з імі прайшоў вайну, удзельнічаў у бітве за Монтэ-Касіна, дзе палегла шмат беларусаў з Заходняй Беларусі. Пасля вайны У.Целеш не пажадаў вяртацца ў рэпрэсіўную сталінскую Беларусь, а застаўся ў Лондане, а потым як і многія беларусы, эмігранты паваеннай хвалі, апынуўся ў Таронта, дзе да апошніх сваіх дзён (1993 г.) актыўна ўдзельнічаў у беларускім грамадскім жыцці, быў старшынёй царкоўнай Рады Беларускай аўтакефальнай царквы імя св. Кірылы Тураўскага і адным з памочнікаў Мітрапаліта Мікалая.

На выставе магчыма было ўбачыць фотаздымкі У.Целеша, а таксама кнігу Юрыя Грыбоўскага "Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна", што выйшла ў мінулым годзе ў Мінску ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны". Верш з гэтай кнігі – аб Монтэ-Касіна – "Макі" Міхася Кавыля прачытаў Вячка Целеш.

Падобная імпрэза з гэтай жа выставай, якая вандруе па краінах Балтыі, прысвечаная 60-годдзю перамогі над гітлераўскім фашызмам. Не дрэнна было б, каб яна адбылася і ў Мінску, бо армія Андэрса гэта не толькі старонка гісторыі для палякаў, але і для беларусаў.

*Вячка Целеш,*
*Старшыня аб'яднання "Маю гонар"*



*На здымку: падчас адкрыцця выставы.*

## Саболева і Мацеёвіцы, Польшча

14–16 кастрычніка ў мястэчках Саболева і Мацеёвіцы адбыўся XXII міжнародны касцюшкаўскі сімпозіум. У рамках сімпозіума былі праведзены V міжнародная маладзёжная касцюшкаўская канферэнцыя ў м. Саболева, педагагічная сесія "Рэгіянальныя традыцыі", шэсце і ўскладанне кветак да помніка Т.Касцюшкі ў м. Мацеёвіцы, касцюшкаўская навуковая сесія, канцэрты беларускіх мастацкіх калектываў.

Ад імя пасольства усклаў кветкі да помніка Т.Касцюшку і прывітаў удзельнікаў касцюшкаўскіх мерапрыемстваў саветнік пасольства Беларусі ў Польшчы Тадэвуш Стружэцкі. У выступленнях арганізатараў мерапрыемстваў, многіх навукоўцаў неаднаразова падкрэслівалася, што супольная гісторыя і асоба Т.Касцюшкі павінны спрыяць фарміраванню і ўмацаванню добрых стасункаў паміж Польшчай і Беларуссю, станоўча ацэньвалася дзейнасць па аднаўленні і музеефікацыі месцаў, звязаных з жыццём Т.Касцюшкі ў Беларусі.

*"Пасольства РБ у Польшчы". 2005. 18 кастр.*

## Бельск-Падляшскі, Польшча

Ужо пяты раз у Бельску-Падляшскім адбудзецца незвычайны конкурс пад назвай "Паэтычнае трохгалоссе", – паведамляе "Radio Bialystok". У ім возьмуць удзел дзеці з сярэдніх школ і гімназіяў, якія будуць дэкламаваць вершы на мовах нацыянальных меншасцяў, што жывуць у ваколіцах Бельска-Падляшскага. У школах гэтага горада праводзяцца між іншым заняткі па беларускай і украінскай мовах, як мовах родных. Падчас конкурсу, які пачнецца а 10-й гадзіне ў зале бельскага Дому культуры, будуць дэкламавацца вершы на беларускай, украінскай, а таксама расейскай мовах. Пасля абвяшчэння вынікаў а 13-й гадзіне распачнецца гала-канцэрт з удзелам салістаў, гурта ўкраінскай песні "Ранак", гурта "Капрыз" з аб'яднання школ з дадатковай беларускай мовай, а таксама салістаў студыі песні "Фарт" з бельскага Дому культуры.

*Паводле "Radio Bialystok"*

## Гайнаўка, Польшча

"У пошуках новых формаў суседства" – гэта дэвіз IV польска-беларускіх літаратурных сустрэч, што праходзяць у Гайнаўцы. У сустрэчах прымае ўдзел літаратурная эліта Беларусі, а менавіта старшыня Саюзу пісьменнікаў у Беларусі Алесь Пашкевіч, галоўны рэдактар адзінага незалежнага літаратурнага часопіса "Дзеяслоў" Барыс Сачанка, знакамітая пісьменніца Вольга Іпатава і Анатоль Вярцінскі. На думку прафесара Аляксандра Баршчэўскага, які прадстаўляе польскі бок, дзякуючы такім сустрэчам можна будаваць нармальныя беларуска-польскія адносіны.

*"Radio Bialystok". 2005. 19 кастр.*

## Познань, Польшча

З пачаткам навучальнага году ў межах Універсітэту імя Адама Міцкевіча

арганізавана вывучэнне беларускай мовы. Заняткі адбываюцца раз на тыдзень і маюць форму лектарата. Кожны студэнт універсітэту мае цяпер магчымасць вывучаць нашу мову. Адкрыццё лектарату – гэта добры крок на шляху да заснавання беларускай філалогіі як асобнага інстытута. У Польшчы такіх інстытутаў некалькі, між іншым, у Варшаве і Беластоку.

*Віталь Воранаў*

## Масква, Расія

Помнік Янку Купалу, які будзе усталяваны на Кутузаўскім праспекце, дастаўлены ў Маскву. Плануецца, што ўрачыстая цырымонія адкрыцця помніка адбудзецца ў другой палове кастрычніка. Дакладная дата будзе вызначаная на нарадзе, якая пройдзе ва ўрадзе Масквы на наступным тыдні. Помнік Янку Купалу стане падарункам Маскве ад Беларусі. Яго аўтарамі з'яўляюцца беларускія скульптары Леў і Сяргей Гумілеўскія, якія сталі пераможцамі спецыяльнага конкурсу на лепшы праект. Чатырохметровая постаць з бронзы будзе усталяваная на невялікім узгорку. З-пад каменя, на які абапіраецца постаць пісьменніка, будзе бегчы крыніца.

*"Беларуская Масква"*

## Брно, Чэхія

5 кастрычніка дэлегацыя "Звязу Беларусаў замежжа" наведала старажытны, другі па значнасці, па памерах і колькасці жыхароў пасля Прагі горад Брно. Запрасілі сяброў Звязу сюды "Маладыя кансерватары" (МК) – гэта маладзёвая арганізацыя адной з найбуйнейшых чэшскіх партый – Грамадзянскай дэмакратычнай партыі. З пражскай штаб-кватэрай МК Звяз Беларусаў супрацоўнічае ўжо пэўны час, і вось зараз наладжана супрацоўніцтва з брноўскім філіялам. Пасля гэтае размовы на юрыдычным факультэце Масарыкавага універсітэта ў Брно адбыўся семінар. Арганізавалі яго тыя ж актывісты з "Маладых кансерватараў" Брно (Ян Стрэлічка ды іншыя). У семінары прынялі ўдзел: доктар паліталогіі спадар Гольцэр, магістр паліталогіі Гловачэк, старшыня Звязу Беларусаў замежжа А.Сідорык. Іх прамовы выслухалі больш за 60 студэнтаў універсітэта.

*Аляксандра Дацій*

## Прага, Чэхія

У пражскай Гарадской бібліятэцы 17 кастрычніка адкрылася выстава пра Беларусь, якую можна будзе наведаць з 18 кастрычніка па 12 лістапада. Падрыхтавалі яе Беларускі цэнтр у супрацоўніцтве з Усходнееўрапейскім дэмакратычным цэнтрам з Варшавы ды Гарадской бібліятэкай у Празе.

*www.bielarus.org*

## Прага, Чэхія

"Невядомыя злачынцы скралі бронзавы надпіс з помніка Францішку Скарыну ў Празе. Маецца на ўвазе помнік, які знаходзіцца паміж міністэрствамі культуры і замежных спраў..." З гэтага паведамлення, размешчанага 24 студзеня гэтага года на сайце суполкі "Скарына", пачалася праца па аднаўленні скрадзенай шыльды. Праз 9 месяцаў, 23 кастрычніка, бронзавы надпіс зноў упрыгожвае помнік. Як праходзіла праца і аб людзях, якія дапамаглі аднавіць надпіс, чытайце ў інтэрв'ю з Віталем Цімошчанкам, якое будзе надрукавана ў чарговым нумары "ВЫДРЫ".

*Паводле "ВЫДРЫ"*

*На здымку: помнік Ф.Скарыну з аднўленай шыльдай.*



## Акцыя салідарнасці

12 кіламетраў ішлі маршам студэнты у падтрымку дэмакратычных арганізацый у Беларусі 15 кастрычніка ў Вялікабрытаніі, Канадзе, Польшчы, ЗША, Турцыі, Непале, Гане, на Тайвані і ў ЮАР. Мэтай маршаў была падтрымка беларусаў у пабудове дэмакратыі і прыцягненне амерыканцаў і жыхароў іншых краін да "глабальнай дэмакратычнай плыні". Студэнты ішлі па сталіцах сваіх краін, апрануўшы майкі з беларускай сімволікай і трымаючы ў руках транспаранты і плакаты. Накірункі маршаў выбіраліся каардынатарамі на месцах. Напрыклад, у Лондане марш пачынаўся каля амбасады Кыргызстана і працягваўся праз амбасады Украіны, Грузіі (як краін "пераможных рэвалюцый"), а таксама Арменіі, Расіі і Эстоніі і скончыўся ля амбасады Беларусі. Дарэчы, у брытанскіх студэнтаў не было магчымасці атрымаць амерыканскія футболкі з беларускай сімволікай (кошт кожнай быў 15 USD), яны размалёўваліся і самі рабілі сабе плакаты.





16 кастрычніка акцыі салідарнасці прайшлі ў блізкім замежжы. Напрыклад, акцыя салідарнасці адбылася ў Варшаве і Познані. А арганізавана яна была Культурна-Асветніцкім Цэнтрам у Познані. Падобныя акцыі ў той самы час адбыліся ў Беластоку, Лодзі, Гдыні і Вроцлаве.

Каля сотні ў асноўным маладых людзей прыйшлі на вуліцу Новы свят, што ў самым цэнтры Варшавы. Прысутныя трымалі бела-чырвона-белыя сцягі, транспарант з надпісамі "Мы салідарныя з Беларуссю". Удзельнікі акцыі выцягнуліся ў жывы ланцуг уздоўж Новага свету, трымаючы свечкі белага і чырвонага колераў.

*Паводле "Беларускага рынку" і Віталя Воранава*

*На здымках: удзельнікі акцыі салідарнасці ў Познані.*



## З'езд Згуртавання беларусаў Канады

40-ы звычайны агульны З'езд Згуртавання беларусаў Канады склікаецца ў суботу, 29 кастрычніка 2005 г. У 13.00 адбудзецца З'езд ў зале БГРЦ на 524 St.Clarens Ave., Toronto, Ontario. У парадак дня сярод іншага ўнесена абмеркаванне плану працы на наступныя два гады і выбары кіруючых і кантрольных органаў ЗБК, а таксама спектакль самадзейнага тэатру ЗБК па п'есе Янкі Купалы "Паўлінка".

**Згуртаванне Беларусаў Канады**
**524 St.Clarens Ave., Toronto, Ontario,**
**M6h 3w7, Canada.**
**Tel: 416-530-1025**

*"Згуртаванне Беларусаў Канады"*

## Футбольная каманда беларускай дыяспары

4 кастрычніка нарадзілася на свет футбольная каманда беларускай дыяспары Масквы. На першую трэніроўку прыйшло 12 чалавек. На наступным тыдні каманда падае заяўку на удзел у Кубку міжнацыянальнай футбольнае Лігі, у якім бяруць удзел каманды розных нацыянальных дыяспар. У заяўку могуць быць уключаныя 18 чалавек, так што ёсць вольныя месцы. Той, хто жадае далучыцца, можа прыходзіць на трэніроўкі ва Універсальнай спартыўнай залі "Дружба" што на тэрыторыі Лужнікоў, а 20.30. Сустракаемся а 20-й гадзіне ля уваходу ў комплекс.

*"Беларуская Масква"*

## Паважаныя чытачы!

Неабходна ваша дапамога! Звяртаецца да вас Стась Лісоўскі, жыхар Мінску. Мне 66 гадоў. Мяне ведае спадар Янка Запруднік з Нью-Ёрку, добра ведае Алена Міхалюк, айцец Надсан з Лондану.

У 1996 годзе за свае сродкі я пабудаваў на матчынай радзіме (вёска Чарнагубава Капыльскага раёну) помнік 67 рэпрэсаваным землякам. Фотаздымкі помніка ёсць у БІНІМЕ ў Нью-Ёрку. На помніку ёсць і імя майго дзеда Яся Крэпскага. У 1905–1913 гадах ён жыў у Эйшландзе, штат Мічыган, у ЗША. Праз гэта быў рэпрэсаваны і загінуў.

У 2003 годзе ў памяць свайго бацькі, ужо нябожчыка, я ўзяўся за будаўніцтва падобнага помніка і на ягонай радзіме ў вёсцы Выня таго ж раёна. Гэта прыкладна 120 км. ад Мінску. Скарыстаўшыся з дакументаў, а таксама апытаўшы тамтэйшых жыхароў, удалося набраць звесткі пра 76 чалавек (120 хатаў), якія зніклі падчас рэпрэсій у 1929–1945 гадах.

Пасля доўгіх пераглядаў, Капыльскі выканкам дазволіў будоўлю помніка: узгоднена месца, пароблены праект. Помнік уяўляе сабой 11 плітаў на валунах, крыжы — праваслаўны, рыма-каталіцкі і ўніяцкі, памятныя тэксты з вершамі Рыгора Барадуліна і Ларысы Геніюш, арка памяці са звонам.

Агульны кошт помніка, уключна з добраўпарадкаваннем тэрыторыі, агароджай і арганізацыйнымі выдаткамі складае прыблізна 8 000 даляраў. Але першачарговая задача выкупіць замоўленыя на заводзе пліты. Кошт гэтых пліт - 3 000 даляраў, на сённяшні дзень нам удалося сабраць некаторую суму грошай, але бракуе 2 000 даляраў. На жаль, грамадскія арганізацыі і партыі, што меліся дапамагчы, не змаглі сабраць поўную суму для выкупу на заводзе гэтых пліт з прычыны ўзмоцненага фінансавага кантролю з боку дзяржавы.

Паважаная чытачы! Ці можаце вы дапамагчы выкупіць гэтыя пліты?

**P.S.** Падчас сталінскіх рэпрэсій у Беларусі пацярпела блізу двух мільёнаў чалавек, але ў іх памяць пастаўлена дзенідзе некалькі помнікаў. Гэта зроблена рукамі грамадскасці ці асобных рупліўцаў. Таму планаваны помнік быў бы вельмі дарэчы.

З павагай,

*Стась Лісоўскі*

**Мінск, 220004**
**Вул. Максіма Танка 36-2-61**
**Тэл.+375172037878**

## ЮБІЛЕЙНЫЯ ДАТЫ ЛІСТАПАДА

* 2 лістапада – 75 гадоў з дня нараджэння (1930) беларускага паэта, літаратуразнаўца, публіцыста, перакладчыка, фальклaрыста, педагога, грамадска-культурнага дзеяча Аляксандра Баршчэўскага. Жыве ў Польшчы.

* 8 лістапада – 115 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, празаіка і фальклaрыста Янкі Пачопкі (1890 – 1977).

* 11 лістапада – 130 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта-гумарыста і драматурга Альберта Паўловіча (1875 – 1951).

* 12 лістапада – 85 гадоў з дня нараджэння беларускага драматурга і народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Макаёнка (1920 – 1982).

* 16 лістапада – 100 гадоў з дня нараджэння беларускага празаіка, паэта і заслужанага работніка культуры Беларусі Яна Скрыгана (1905 – 1992).

* 16 лістапада – 80 гадоў з дня нараджэння (1925), беларускага пісьменніка і журналіста Кастуся Акулы (сапр. Качан Аляксандр Ігнатавіч). Жыве ў Канадзе.

* 18 лістапада – 80 гадоў назад (1925) выйшла ў свет "Беларуская ніва", газета рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, неафіцыйны орган Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выдавалася ў Вільні да канца 1926 г.

* 26 лістапада – 75 гадоў з дня нараджэння Караткевіча Уладзіміра Сямёнавіча (1930 – 1984), беларускага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка, кінасцэнарыста.

* 27 лістапада – 105 гадоў з дня нараджэння Пукста Рыгора Канстанцінавіча (1900 – 1960), беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

*Паводле "Беларускага архіву навукі і мастацтва"*

## ВЕСТКІ

***

Старшыня Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына заявіла, што прэзідэнцкія выбары пройдуць не пазней за 20 ліпеня 2006 года. Улічваючы тое, што выбары ў нас традыцыйна праводзяцца ў нядзелю, хутчэй за ўсё, гэта будзе 16 ліпеня. Час, калі апазіцыйна настроеныя студэнты раз'едуцца з ВНУ па хатах.

*Паводле радыё "Свабода"*

***

Адбыўся Нацыянальны Кангрэс дэмакратычных сіл. Афіцыйна былі вылучаны патрабаванні Кангрэса дэмакратычных сіл да ўладаў на конт правядзення выбараў у 2006 годзе. Галоўнай ідэяй Кангрэса было абранне адзінага кандыдата ў прэзідэнты для ўдзелу ў будучых прэзідэнцкіх выбарах. Прэтэндэнтаў было чатыры – Аляксандр Мілінкевіч, Анатоль Лябедзька, Станіслаў Шушкевіч і Сяргей Калякін. Абраны Аляксандр Мілінкевіч. Аляксандр Мілінкевіч – новы лідэр апазіцыі і яе адзіны кандыдат у прэзідэнты.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

***

Кампанія за беларускую мову "Нямецкай хвалі" дае плён: радыёстанцыя заявіла, што вяшчанне стане двухмоўным "у сярэднетэрміновай перспектыве". Раней гаворка была пра "доўгатэрміновую перспектыву". Справа важная: прыняўшы рашэнне аб рускай мове 30-хвілінных перадачаў "Нямецкай хвалі", еўрапейская дыпламатыя сімвалічна перадала Беларусь у зону расійскага ўплыву. Але бура пратэстаў у Беларусі прымусіла Брусель і Берлін задумацца над адэкватнасцю ўласнага бачання беларускай сітуацыі.

*"Наша Ніва". 2005. 14 кастр.*

***

"Насуперак пярэчанням, Беларусь аднаўляе свае атручаныя землі," – пад такім загалоўкам амерыканская газета "International Herald Tribune" сёньня друкуе артыкул пра аднаўленне сельскай гаспадаркі на тэрыторыях Беларусі, заражаных радыяцыяй пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. "International Herald Tribune" піша, што зоны, дзе радыяцыя перавышае 40 кюры на квадратны кіламетр і куды забаронена заходзіць людзям, перамяшаныя з землямі, дзе жы-

вуць людзі. Улады раздавалі людзям дазіметры, але мала хто імі карыстаецца. У выніку, многія людзі дагэтуль збіраюць грыбы ды ягады, і трымаюць пчальнікі на заражаных тэрыторыях. Калі жывеш на адну пенсію, які тут можа быць выбар? – рытарычна пытаецца амерыканскі журналіст. Ён піша, як назіраў калі двое мясцовых жыхароў у Чарнобыльскай зоне збіралі яблыкі ў даўно закінутым садзе.

*Радыё "Свабода". 2005. 20 кастр.*

***

У Віцебску прагрымелі 3 выбухі. Першы выбух адбыўся 14 верасня, у 18.45 на праспекце Фрунзэ, побач з прыпынкам грамадскага транспарту "Плошча Свабоды". Другі выбух адбыўся праз тыдзень, 22 верасня ў 22.17, каля летняй кавярні "Эрыдан". За дапамогай у медыцынскія ўстановы звярнуліся 43 чалавекі, у працяглым абследаванні мелі патрэбу 36 пацярпелых, восем шпіталізавана, тры чалавекі ў цяжкім стане. Па звестках інфармацыйных агенцтваў, колькасць пацярпелых павялічылася да 50. Пазней прагрымеў трэці выбух.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

***

Беларусы ў перспектыве змогуць легальна працаваць у Літве . У Мінску дыпламаты двух краін разглядзелі магчымае ўвядзенне квот на працаўладкаванне. Спецыялісты ўпэўнены, што гэта мера павялічыць тавараабарот і зменшыць паток працоўных эмігрантаў.

Па ацэнкам экспертаў, за мяжу штогод з'язджае працаваць каля 50 тысяч беларусаў. Узровень экспарту працы каля 1,5 адсоткаў. Часцей працоўныя мігранты замаўляюць кантракты на працу ў сферы паслуг, сельскай гаспадаркі і будаўніцтва. Перавагу надаюць Расіі і краінам Балтыі. А ў пошуку працы літоўцы аддаюць перавагу краінам Еўрасаюзу. І таксама нелегальна, з-за чаго краіне сёння востра патрэбныя прафесійныя кадры. Папоўніць вакансіі ў Літве спрабуюць спецыялістамі з Беларусі, але пры гэтым менеджэры спрабуюць навязваць супрацоўнікам "шэрыя" схемы. Адзін з варыянтаў прававога адсочвання гэтага пытання – увядзенне новых катэгорый віз для грамадзян памежнай зоны. Зараз кошт аднаразовай візы ў Літву – 5 еўра. Калі ад перамоў консулы пяройдуць да працы – візы будуць танней, а значыць, літоўцы і беларусы змогуць працаваць за мяжой легальна.

*Паводле агенцтва "Інтэрфакс" і АФН*

***

У перспектыве Беларусь не абыдзецца без уласнай атамнай электрастанцыі, заявіў першы віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка на 10-м Беларускім энергетычным і экалагічным кангрэсе. Зараз, паводле яго слоў, неабходна распрацоўваць нарматыўную базу для практычнага ўвасаблення праекта.

Для арганізацыі энергабяспекі Беларусі трэба выкарыстоўваць розныя крыніцы энергіі, зазначыў спадар Сямашка, падкрэсліўшы, што АЭС з'яўляецца "найбольш выгаднай крыніцай электрычнай энергіі". Апрача таго, віцэ-прэм'ер паведаміў, што суседняя Польшча таксама плануе пабудаваць сваю атамную электрастанцыю.

Намеснік міністра энергетыкі Міхаіл Міхадзюк у сваю чаргу паведаміў, што Міністэрства энергетыкі разглядае будаўніцтва АЭС як адзін з перспектыўных кірункаў развіцця беларускай энергетыкі. Нагадаем, што шэраг грамадскіх арганізацый патрабуюць правядзення рэферэндуму, па выніках якога і прапануе прыняць рашэнне аб магчымасці будаўніцтва АЭС. Улады ніяк не рэагуюць на гэтыя прапановы.

*"Народная воля". 2005. 8 кастр.*

***

Расія ў найбліжэйшы час усталюе сусветныя цэны на энерганосьбіты для ўсіх краінаў, у тым ліку "сваіх хаўруснікаў". Пра гэта заявіў кіраўнік расійскага МЗС Сяргей Лаўроў. "Газпрам" мае падвысіць цану на дадатковыя 1,4 млрд. кубаметраў газу, якія Беларусь набывае ў наступным годзе, да сярэднееўрапейскіх тарыфаў. А з 2007 года "Газпрам" мае падвысіць цану на ўвесь газ, які ідзе ў Беларусь.

*"Наша Ніва". 2005. 21 кастр.*

***

У самым цэнтры Полацка падчас археалагічных раскопаў, на плошчы Свабода, археолагі знайшлі сляды ювелірнай вытворчасці XVII стагоддзя. Рэшткі адзення, завушніцы, колца, пярсцёнкі і булаўкі – агульнай колькасцю каля сарака ўпрыгожанняў, выраблены са сплаву срэбра і медзі. Акрамя таго, археолагі знайшлі ў грунце каштоўнасці XI – XII стагоддзяў. Спецыялісты упэўнены: побач знаходзілася ювелірная майстэрня княжацкага двара. А знойдзеныя ўпрыгожанні належалі дзецям і ўнукам Усяслава Чарадзея.

За час раскопаў знойдзена больш за дзесяць тысяч рэчаў, дзвесце з якіх уяўляюць найбольшую гістарычную каштоўнасць. Штодзень на раскопе знаходзілі дзесяткі ювелірных вырабаў. Кожная з іх здзіўляла навукоўцаў тым, што захавалася ў добрым стане.

*naviny.by*

***

У Беларускім навукова-даследчым цэнтры электроннай дакументацыі прадугледжваецца стварэнне камп'ютэрнай версіі архіву магнацкага раду Радзівілаў і Літоўскай метрыкі – дзяржаўнага архіву Вялікага Княства Літоўскага. Пра гэта паведаміў дырэктар цэнтра Вячаслаў Насевіч 4 кастрычніка ў Мінску на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Дню архівіста, што адзначаецца 6 кастрычніка.

Паводле слоў Вячаслава Насевіча, у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі знаходзіцца толькі 32 % усіх дакументаў фонду князёў Радзівілаў. "Прыкладна 28 % матэрыялаў, што тычацца дадзенай тэмы, захоўваюцца ў архівах Польшчы. Астатняя частка дакументаў гэтага фонду знаходзіцца ў архіўных установах Літвы і Расіі", – сказаў Вячаслаў Насевіч. Паводле яго слоў, у Беларусі, Польшчы, Літве і Расіі вядзецца збор матэрыялаў па стварэнні сумеснага каталогу фонду Радзівілаў, а таксама запланавана стварэнне камп'ютэрных версій фонду і Літоўскай метрыкі. "У Беларусі гэта стала магчымым толькі цяпер, закупіўшы адпаведнае абсталяванне", – сказаў Вячаслаў Насевіч.

*"Наша слова". 2005. 12 кастр.*

***

Унікальная калекцыя партрэтаў роду Радзівілаў прапанавана ў Гродне. Выстава будзе працаваць да канца года. У экспазіцыі 23 палотны, у тым ліку партрэты Радзівілаў, Сапегаў, каралёў, кардыналаў. Партрэты ўяўляюць калекцыю вядомага роду магнатаў Вялікага Княства Літоўскага. Яны ўпрыгожвалі рэзідэнцыю князёў у Нясвіжы. Стваральнікам калекцыі быў вядомы мецэнат Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка.

*www.tvr.by*

***

Адкрыццё клуба прыхільнікаў беларускай музыкі "Farmat.By" адбылося 14 кастрычніка. На мерапрыемства сабраліся госці з Мінска і іншых гарадоў. З боку музыкаў прыйшлі хлопцы з вядомага беларускага гурта "IQ48". Музыкі адказвалі на пытанні, дзяліліся уражаннямі ад "Басовішча-2005" і паказвалі майстар-клас, выконваючы песні "ўжывую".

*Прэс-Цэнтр МП "Вока"*

НАШЫЯ СТРАТЫ

## Памёр Сымон Белы

18 кастрычніка 2005 года памёр Сымон Белы – выдатны пісьменнік і летапісец, сапраўдны патрыёт нашай зямлі, адзін з заснавальнікаў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

Смуткуем з нагоды смерці і выказваем шчырыя спачуванні родным і паплечнікам.

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падбор матэрыялаў і вёрстка – Зміцер Сасноўскі. Адказная за выпуск – Алена Макоўская.

Адрас рэдакцыі: вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск 220030, Рэспубліка Беларусь zbsb@lingvo.minsk.by; www.zbsb.org тэл. 289-31-94

Наклад 200 асобнікаў

№10 (46) КАСТРЫЧНІК 2005 ДАДАТАК

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



## Выніковыя дакументы IV З'езда беларусаў свету

**Адным з вынікаў IV З'езду беларусаў свету была прыняцце выніковых дакументаў. Знаёмім нашых чытачоў з кароткім аглядам і поўнымі версіямі гэтых дакументаў. З Праграмай З'езда, з фотагалерэямі, прысвечанымі розным бакам дзейнасці З'езда, можна пазнаёміцца на сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" – zbsb.org**

## Праграма "Беларусы замежжа" (2005 – 2009 гг.)

**1. Уводзіны**

Праграма "Беларусы замежжа" распрацавана на падставе прапаноў, якія паступілі ў адрас МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ад сяброў аб'яднання – прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Праграма непасрэдна датычыцца як дзейнасці самога МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", так і ўключае шэраг парад і прапаноў да органаў улады ў галіне развіцця ўзаемаадносін і дапамогі беларускай дыяспары. На падставе дадзенай праграмы распрацоўваюцца гадавыя планы дзейнасці МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Справаздача аб выкананні гэтай праграмы зацвярджаецца Пятым з'ездам беларусаў свету.

**2. Мэты праграмы**

2.1. Кансалідацыя беларускай нацыі дзеля духоўнага, эканамічнага і дзяржаўнага адраджэння Бацькаўшчыны.

2.2. Захаванне беларускай прысутнасці ў свеце, умацаванне беларускай грамадзянскай супольнасці.

**3. Задачы праграмы**

3.1. Забеспячэнне ўмоў захавання нацыянальнай самабытнасці беларускай нацыянальнай меншасці ў краінах, дзе яна пражывае.

3.2. Забеспячэнне рэалізацыі палажэнняў Усеагульнай дэкларацыі праў чалавека, што належаць да нацыянальных, этнічных, рэлігійных і моўных меншасцяў, якая была ўхвалена на 47-й сесіі Генеральнай асамблеі ААН і іншых міжнародных дакументаў у дачыненні да прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных меншасцяў.

3.3. Усталяванне шчыльных шматузроўневых кантактаў і рознабаковых дачыненняў паміж беларусамі свету, беларускімі арганізацыямі і Рэспублікай Беларусь.

3.4. Стварэнне адзінай інфармацыйнай прасторы сусветнай беларускай супольнасці.

3.5. Аказанне канкрэтнай дапамогі з боку беларускай дзяржавы і грамадства беларускім арганізацыям замежжа па забеспячэнню іх нацыянальна-культурных патрэб і падтрымкі беларускага нацыянальнага руху ў замежжы.

**4. Арганізацыя ўзаемаадносін у галіне культуры**

4.1. Працяг выдання навукова-папулярных, мастацкіх і інш. кніг, прысвечаных беларускай дыяспары ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны".

4.2. Падтрымка пісьменнікаў беларускай дыяспары, выданне іх твораў у серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны".

4.3. Публікацыя даследаванняў па гісторыі беларускай эміграцыі, манаграфій па рэлігійна-царкоўнаму жыццю беларускай дыяспары, нацыянальнай адукацыі ў замежжы і інш.

4.4. Выданне кніг па гісторыі Беларусі.

4.5. Аказанне дапамогі існуючым у замежжы бібліятэкам беларускай кнігі ў папаўненні іх фондаў, арганізацыя новых пры дзеючых грамадскіх арганізацыях і культурных цэнтрах.

4.6. Арганізацыя і дапамога ў правядзенні творчых сустрэч, семінараў, канферэнцый з удзелам навукоўцаў, пісьменнікаў і інш. дзеячаў беларускай культуры ў асяродках беларускай дыяспары.

4.7. Пашырэнне кантактаў з моладдзю з беларускай дыяспары праз правядзенне сумесных мерапрыемстваў культурна-асветнага характару.

4.8. Рэалізацыя сумесна з асяродкамі беларускай дыяспары культурна-асветніцкіх праграм ("круглых сталоў", канферэнцый) для абмену вопытам нацыянальнага, грамадскага, культурна-асветнага і інш. досведу.

4.9. Арганізацыя і дапамога ў арганізацыі гастроляў беларускіх мастацкіх калектываў і асобных выканаўцаў у краінах пражывання беларускай нацменшасці.

4.10. Спрыянне ў выданні альбомаў беларускіх музычных калектываў, бардаўскіх песень.

4.11. Арганізацыя і дапамога ў правядзенні фестываляў і конкурсаў беларускай песні.

4.12. Аказанне метадычнай падтрымкі беларускім мастацкім калектывам замежжа.

4.13. Дапамога ў правядзенні ў Беларусі фестывалю фальклорных калектываў беларускай дыяспары. Падрыхтоўка адпаведных зваротаў да Міністэрства культуры, Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў.

4.14. Дапамога беларускім мастацкім калектывам замежжа ў набыцці імі беларускіх касцюмаў.

4.15. Арганізацыя і дапамога ў правядзенні выстаў мастакоў беларускай дыяспары ў Беларусі.

4.16. Арганізацыя і дапамога ў арганізацыі выстаў беларускіх мастакоў замежжа ў краінах пражывання беларускай дыяспары.

4.17. Спрыянне ТБК Літвы ў адкрыцці музея імя Івана Луцкевіча.

4.18. Зварот разам з беларускімі суполкамі Украіны да урада Украіны ўзвесці помнік М.Багдановічу ў Кіеве.

4.19. Дапамога грамадскім арганізацыям беларускай дыяспары ў арганізацыі і правядзенні нацыянальных святаў – гукання вясны, Купалля, Дзядоў, Каляд, Дня Волі – 25 Сакавіка, Дня Незалежнасці і г. д.

4.20. Спрыянне развіццю нацыянальнага турызму: арганізацыя падарожжаў і адпачынкаў па Беларусі з мэтай азнаямлення з гістарычнымі помнікамі, сакральнай і замкавай архітэктурай беларусаў замежжа і іх дзяцей.

4.21. Садзейнічанне правядзенню літаратурнага конкурса "Дэбют", арганізаванага Беларускім саюзам у Польшчы і рэдакцыяй "Нівы".

**5. Арганізацыя ўзаемаадносін у галіне навукі і адукацыі**

5.1. Правядзенне і садзейнічанне правядзенню навуковых даследаванняў беларускай дыяспары па наступных накірунках:

- комплексны разгляд прычынаў эміграцыі беларусаў ў мінулым і цяперашні час;
- вывучэнне праблем адаптацыі да інакультурнай прасторы;
- аналіз рэлігійных аспектаў сацыякультурных працэсаў беларускай эміграцыі;
- выяўленне агульных рысаў беларускай дыяспары і спецыфікі яе ў асобных рэгіёна і канкрэтных краінах;
- аналітычны агляд дзейнасці культурных таварыстваў, арганізацый, саюзаў і цэнтраў беларускага пражывання за мяжой;
- ацэнка ўзаемаўплыву культуры метраполіі і беларускага замежжа;
- апісанне сямейна-бытавых бакоў жыцця беларускай дыяспары;
- вывучэнне гісторыі і сучаснага стану музейнай і архіўнай справы беларускай дыяспары;
- разгляд палажэння беларускай культуры ў лімітрофах;
- ацэнка ўкладу беларусаў замежжа ў агульнасусветны культурны працэс.

5.2. Правядзенне адпаведных навуковых сустрэч, семінараў, канферэнцый, выданне матэрыялаў.

5.3. Заснаванне і выданне разам з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Энцыклапедыі беларускай дыяспары.

5.4. Спрыянне пашырэнню ў замежжы беларускамоўных школ і класаў, увядзенню ў школьныя праграмы беларускай мовы і літаратуры як прадмета.

5.5. Аказанне дапамогі ўжо існуючым беларускім школам.

5.6. Спрыянне беларускай моладзі замежжа ў атрыманні сярэдняй і вышэй-

шай адукацыі ў Беларусі.

5.7. Зварот да ўрада Рэспублікі Беларусь з прапановай адкрыцця ў Мінску Беларускага нацыянальнага універсітэта для працягу адукацыі на роднай мове грамадзян Беларусі і выпускнікоў беларускіх школ у замежжы.

5.8. Спрыянне настаўнікам беларускай мовы, літаратуры, гісторыі ў замежжы ў павышэння кваліфікацыі на спецыяльных курсах пры ВНУ Беларусі.

5.9. Правядзенне агульнабеларускіх конкурсаў сярод навучэнцаў як у Беларусі, так і ў асяродках беларускай дыяспары на тэму "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці", "Велічныя постаці беларускай нацыі".

5.10. Спрыянне ў выданні спецыяльных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для замежных беларускіх школ.

5.11. Спрыянне ў выданні дапаможнікаў па агульнаадукацыйных прадметах для адукацыі дзяцей у сем'ях беларускай дыяспары.

**6. Арганізацыя ўзаемаадносін у галіне эканомікі**

6.1. Спрыянне прадстаўнікам прадпрымальніцкіх колаў беларускай дыяспары ў ажыццяўленні імі на Беларусі інвестыцыйных праектаў.

6.2. Зварот да дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь з хадайніцтвам аб стварэнні прадпрымальнікам беларускага паходжання па рэкамендацыі беларускіх суполак ільготныя ўмовы вядзення бізнесу ў Беларусі (змяншэнне мытных пошлін, падаткаў і г. д.) пры ўмове іх канкрэтнай дапамогі беларускім арганізацыям, школам і г. д. у краінах іх пражывання.

6.3. Правядзенне "круглых сталоў" з удзелам прадстаўнікоў прадпрымальніцкіх колаў беларускага замежжа па пытаннях дзелавога супрацоўніцтва.

**7. Арганізацыя ўзаемаадносін у галіне пераадолення наступстваў чарнобыльскай катастрофы і гуманітарнай дапамогі**

7.1. Пастаяннае інфармаванне беларускай сусветнай супольнасці аб бягучым стане спраў, звязаных з наступствамі Чарнобыльскай катастрофы на Беларусі.

7.2. Прыцягненне дапамогі сусветнай беларускай супольнасці ў вырашэнні канкрэтных праблем, звязаных з пераадоленнем наступстваў Чарнобыльскай катастрофы (гуманітарная дапамога, аздараўленне беларускіх дзяцей).

**8. Арганізацыйная аснова дзейнасці**

8.1. Зварот да Адміністрацыі Прэзідэнта і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай стварыць у складзе Савета Міністраў асобнай структуры па справах беларускай дыяспары (Камітэта па справах дыяспары).

8.2. Зварот да Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з прапановай стварыць камісію па справах беларускай дыяспары (у Савеце Рэспублікі і Савеце нацыянальнасцяў).

8.3. Зварот да Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з прапановай заснавання спецыяльнай навуковай структуры (цэнтра\інстытута з наданнем яму функцый вывучэння і аналізу тэндэнцый развіцця беларускай дыяспары ў розных краінах свету.

8.4. Зварот у Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь з прапановай па стварэнні асобных пасад у пасольствах і консульствах Рэспублікі Беларусь па справах беларускай дыяспары.

8.5. Зварот да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь з просьбай унесці змены ў пастанову № 402 ад 26.03.2003 г. наступнага зместу: "Пры афармленні запрашэння для блізкіх сваякоў (брата, сястры, сына, дачкі, нявесткі, унукаў) грамадзянін Рэспублікі Беларусь плаціць пошліну ў памеры 50% базавай велічыні".

8.6. Працяг працы па стварэнні Беларускага дому на базе МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ў г. Мінску па адрасу: вул. Рэвалюцыйная, 15, дзе павінны дзейнічаць:

- Інфармацыйна-аналітычны цэнтр беларускай дыяспары;
- Бібліятэка беларускай дыяспары;
- Музей беларускай дыяспары;
- Архіў беларускай дыяспары і г. д.

8.6. Спрыянне ў правядзенні з'ездаў беларусаў Еўропы, міжнародных форумаў і іншых мерапрыемстваў беларускай дыяспары.

8.7. Спрыянне ў стварэнні беларускіх культурна-асветных цэнтраў у гарадах кампактнага пражывання беларускай дыяспары. Аказанне ім неабходнай арганізацыйнай і метадычнай дапамогі.

**9. Прававая аснова дзейнасці**

9.1. Збор, аналіз і выданне матэрыялаў аб парушэнні правоў чалавека і беларускай нацыянальнай меншасці ў краінах СНД, Балтыі і інш.

9.2. Зварот да ўплывовых міжнародных арганізацый (ААН, АБСЕ і інш.) дзеля забеспячэння на міжнародным узроўні абароны правоў беларускай дыяспары.

9.3. Зварот да МЗС з прапановай стварыць пры пасольствах Рэспублікі Беларусь цэнтры юрыдычнай дапамогі прадстаўнікам беларускай дыяспары, які б надаваў права замежным беларусам:

- атрымліваць бязвыплатныя візы для наведвання Беларусі;
- спрасціць працэдуру рэгістрацыі для беларусаў замежжа пры ўездзе ў Рэспубліку Беларусь;
- адмяніць медыцынскае страхаванне для беларусаў замежжа, якія прыязджаюць у Беларусь па запрашэнні родзічаў;
- зменшыць консульскі збор пенсіянерам і інвалідам, пражываючым за мяжой, пры атрыманні пашпартоў грамадзяніна Рэспублікі Беларусь;
- атрымліваць на льготных умовах сярэднюю і вышэйшую адукацыю ў Беларусі;
- атрымліваць права набыцця маёмасці ў Беларусі;
- атрымліваць працу ў Беларусі без абмежаванняў і г. д.

9.4. Працяг зваротаў да ўрада Рэспублікі Беларусь з прапановай паскорыць прынянце закону Рэспублікі Беларусь "Аб беларускай дыяспары".

9.5. Зварот да ўраду і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з просьбай распрацаваць праект Закону аб рэпатрыяцыі этнічных беларусаў пры адпаведнай дзяржаўнай падтрымцы (першачарговае перад іншымі перасяленцамі выдзяленне ці продаж зямельных участкаў для будаўніцтва, беспрацэнтных грашовых пазык, прадстаўленне іншых матэрыяльных выгод).

**10. Арганізацыя ўзаемаадносін у галіне інфармацыйнага абмену**

10.1. Працяг дзейнасці інфармацыйнага цэнтра, створанага пры МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

10.1. Працяг выпуску інфармацыйнага бюлетэня "Беларусы ў свеце", пашырэнне аўдыторыі падпісчыкаў.

10.2. Сістэмнае інфармаванне беларускай дыяспары пра навіны ў Беларусі і навіны беларускай дыяспары праз дасылку паведамленняў, прэс-рэлізаў.

10.3. Пастаяннае аднаўленне інтэрнэт-сайта МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

10.4. Стварэнне на сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" электроннай бібліятэкі з творамі беларускай дыяспары і пра беларускую дыяспару.

10.5. Стварэнне на сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" галерэі дзеячаў беларускай дыяспары, беларускіх помнікаў і знакавых месцаў у замежжы.

10.6. Спрыянне беларускай дыяспары ў падпісцы на беларускамоўныя выданні Рэспублікі Беларусь.

10.7. Падтрымка і метадычная, інфармацыйная дапамога выданням беларускай дыяспары.

10.8. Арганізацыя падпіскі бібліятэк Рэспублікі Беларусь на газету "Ніва" (Польша).

10.9. Пастаяннае папаўненне базы дадзеных аб беларускіх сродках масавай інфармацыі за мяжой.

10.10. Пастаяннае папаўненне базы дадзеных аб беларускіх суполках і культурных цэнтрах у замежжы.

10.11. Заснаванне газеты "Бацькаўшчына" для задавальнення інфармацыйных патрэб беларускай дыяспары.

10.12. Дапамога асяродкам беларускай дыяспары ў набыцці ў Беларусі кінавідэа- і аўдыёматэрыялаў.

10.13. Арганізацыя падпіскі расійскіх бібліятэк у месцах кампактнага пражывання беларускай дыяспары на беларускі перыядычны друк: "Наша ніва", "Наша слова".

10.14. Даследаванне стану беларускай дыяспары, збор і аналіз інфармацыі, стварэнне базы дадзеных, прагназаванне працэсаў.

10.15. Інфармаванне аб апублікаваных кнігах і плануемых да публікацыі ў галіне гісторыі, культуры і навукі.

**11. Фінансавая аснова рэалізацыі праграмы**

11.1. Зварот да дзяржаўных органаў па выдзяленні бюджэтных сродкаў на рэалізацыю асобных пунктаў праграмы.

11.2. Прыцягненне фінансавых сродкаў сяброў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ў Беларусі і замежжы, а таксама міжнародных арганізацый і фондаў.

## Зварот да суайчыннікаў "Беларусь – для дыяспары, дыяспара – для Беларусі"

**Дарагія суайчыннікі!** Мы ўсе разам – хто нарадзіўся і жыве ў Беларусі, хто па волі лёсу апынуўся па-за межамі бацькаўшчыны – ёсць Народ Беларусі. Мы ўсе – адзін для аднаго, мы ўсе разам - для Беларусі, вольнай і незалежнай, дэмакратычнай і заможнай, роўнай сярод роўных у сусветнай супольнасці нацый.

Гісторыя Беларусі – ад сівой даўніны да нашых дзён, як і гісторыя іншых краін і народаў, сведчыць: чым шчыльней сувязі, чым мацней пачуццё еднасці паміж бацькаўшчынай і дыяспарай, тым лепш для абодвух бакоў. Сувязяў і еднасці на ўсіх узроўнях – паміж сваякамі і роднымі, паміж грамадскімі аб'яднаннямі і дзяржаўнымі інстытуцыямі. Бацькаўшчына ўзбагачаецца сусветным вопытам, дасягненнямі і здабыткамі. Выхадцы з Беларусі – атрымліваюць павагу і прэферэнцыі за межамі сваёй радзімы, у краінах пражывання. Інтэлектуальныя здабыткі таленавітых сыноў і дачок Беларусі ўзбагачаюць скарбніцу сусветных дасягненняў – у навуцы, культуры, палітыцы.

На жаль, гісторыя стасункаў афіцыйнай Беларусі з дыяспарай ведае змрочныя перыяды, калі кіруючыя колы падзялялі дыяспару на сваіх і чужых, праваквалі варожасць і расколы, узводзілі памежныя жалезныя заслоны.

На жаль, рэцыдывы такой палітыкі наглядаюцца і сёння. Больш таго, яны ўзмацняюцца. Мы павінны, і гэта ў нашых магчымасцях, стрымаць націск заганных традыцый, паспрыяць узмацненню сувязяў паміж бацькаўшчынай і дыяспарай.

На ўсіх узроўнях і на абодвух гістарычных накірунках – на Захад і на Усход. Найперш на міжасобасным узроўні.

Родзічы, сябрукі, знаёмыя!

• Не дайце адлегласці і часу перарваць, прыпыніць вашы сувязі, пішыце адзін аднаму рэгулярна і часцей. Расказвайце пра сваё жыццё, падзеі ў Беларусі і краінах пражывання.

Суайчыннікі за мяжой!

• Інфармуйце сваіх замежных сяброў і знаёмых аб сітуацыі ў Беларусі, да якога б асяродку яны не належылі – у сферы эканомікі, бізнеса, культуры, палітыкі.

• Гуртуйцеся ў суполкі па інтэрэсах, усталёўвайце цесныя і пастаянныя сувязі паміж сабой, уступайце ў суполкі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". З гэтым заклікам мы звяртаемся асабліва да моладзі, якая нядаўна выехала за мяжу. Супольна лягчэй адаптавацца ў новых умовах, усталявацца на новым месцы і паспрыяць прагрэсіўным пераменам ў Беларусі. Арганізаваныя суполкі дыяспары, аўтарытэтныя дзеячы краін пражывання!

• Выкарыстоўвайце свае сувязі з грамадскімі арганізацыямі, з вядомымі дзеячамі краін пражывання за мяжой дзеля падвышэння іх уплыву на дзяржаўныя інстытуцыі, на палітычныя колы сваіх краін у вызначэнні дакладнай і мэтанакіраванай палітыкі ў адносінах да Беларусі.

• Дапамагайце пашырэнню кантактаў, абмену інфармацыяй паміж роднаснымі прафесійнымі і грамадскімі арганізацыямі, правядзенню імі сумесных мерапрыемстваў, абмену дэлегацыямі.

## Рэзалюцыя "Пра беларускую мову"

Пачынаючы ад XVIII ст. у свеце усталявалася наступная агульнапрынятая норма: у нацыянальных дзяржавах дзяржаўнай моваў з'яўляецца нацыянальная мова карэннага этнасу. Гэта ўспрымалася і ўспрымаецца як аб'ектыўная рэальнасць. Сёння мова карэннага этнасу Беларусі працягвае змагацца за сваё годнае існаванне. З 1991 па 1995 г. беларуская мова апошні раз была адзінай дзяржаўнай мовай на тэрыторыі Беларусі. Моўны рэферэндум 1995 г. дэ-юрэ ўраўняў беларускую мову з рускай, а дэ-факта выцесніў яе з ужытку амаль усіх сфераў дзяржаўнай і грамадскай дзейнасці.

Сёння ў Беларусі колькасць вучняў з мовай навучання:

• у 1999-2000 гг. – 30% па-беларуску, 70% - па-руску;

• у 2004-2005 гг. – 301 250 (23,8%) па-беларуску і 962 549 (76,1%) па-руску.

Колькасць ВНУ дзяржаўнай формы ўласнасці – 43, недзяржаўнай – 14, з іх колькасць ВНУ з выкладаннем усіх прадметаў на беларускай мове – 0. Колькасць беларускамоўных газет па стану на 1 студзеня 2004 г. – 96, рускамоўных – 420, двухмоўных – 686.

Нягледзячы на тое, што 74% грамадзян Беларусі (паводле перапісу 1999 г.) прызналі беларускую мову сваёй роднай, яна знаходзіцца ў складаным становішчы. Бальшыня галінаў у навуцы, гаспадарцы і культуры маюць нетрывалую традыцыю выкарыстання беларускай мовы альбо не маюць яе зусім. Сёння ў Беларусі няма ніводнай сферы, у якой захоўвалася б роўнасць паміж беларускай і рускай мовамі. Няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы з поўным выкладаннем на беларускай мове. Вельмі незайздроснае становішча беларускай мовы на радыё і тэлебачанні, у сродках масавай інфармацыі. У сувязі з гэтым, патрабуем спыніць дыскрымінацыю беларускай мовы і забяспечыць ёй рэальны статус дзяржаўнай мовы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

## Дэкларацыя "Аб падтрымцы Акта незалежнасці Беларусі, прынятага Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 г. у Мінску"

Мы, удзельнікі Чацвёртага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказваем падтрымку Акту незалежнасці Беларусі, які быў прыняты Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 г. у Мінску. Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі, – усведамляючы адказнасць за будучыню краны, – напамінаючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, – грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**Заяўляем**: Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства. Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная, бяз'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум. Сёння незалежнасць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўніком беларускіх уладаў, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краінаў свету. Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносны з усімі краінам свету, асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну. Незалежнасць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда,

**Сведчым** Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі – бела-чырвона-белым сцягам і гербам Пагоня;

**Абвяшчаем** незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**Прызнаем** не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

➲

**Заклікаем** усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэй Акта незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны; парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь!

## Рэзалюцыя "МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" – правамоцны прадстаўнік інтарэсаў сусветнай беларускай супольнасці"

Удзельнікі Чацвёртага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" канстатуюць, што Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" за перыяд ад заснавання ў 1990 годзе не збочыла з шляху пабудовы незалежнай і суверэннай беларускай дзяржавы, захавання беларускай прысутнасці ў свеце і стварэння адзінай кансалідаванай сусветнай беларускай супольнасці з беларусаў метраполіі і дыяспары.

МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ёсць міжнародная арганізацыя, якая здабыла аўтарытэт і павагу, годна прадстаўляе беларускія нацыянальныя памкненні як на радзіме, так і ў замежжы. Разам з іншымі нацыянальна з'арыентаванымі беларускімі грамадскімі аб'яднаннямі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" знаходзіцца на Радзіме ў першых шэрагах змагароў за дэмакратычныя каштоўнасці і інтэграцыю Беларусі ў сусветную цывілізацыйную прастору.

**Удзельнікі з'езда:**

1. Пацвярджаюць паўнамоцтвы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" прадстаўляць інтарэсы беларускіх суполак замежжа ў адносінах з дзяржаўнымі структурамі Рэспублікі Беларусь, міждзяржаўнымі і міжнароднымі арганізацыямі, грунтуючыся на Статуце згуртавання, айчынным і міжнародным заканадаўствах.

2. Звяртаюцца да сённяшняй улады ў Рэспубліцы Беларусь з заўвагай не падзяляць беларускую дыяспару па палітычнай прыкмеце; не ствараць штучныя альтэрнатывы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ў яе справе яднання беларусаў свету і каардынацыі культурна-асветнай працы беларускіх суполак замежжа.

3. Заклікаюць урад Рэспублікі Беларусь запрашаць прадстаўнікоў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" да ўдзелу ў распрацоўцы законаў і іншых заканадаўчых актаў, якія тычацца беларускай дыяспары.

4. Заклікаюць урад Беларусі выдзеляць бюджэтныя фінансавыя сродкі на рэалізацыю Праграмы "Беларусы замежжа", прынятай на Чацвёртым з'ездзе беларусаў свету.

5. Падтрымліваюць стварэнне на базе МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Беларускага дому з сучасным інфармацыйным і навукова-даследчым цэнтрам, беларусазнаўчай бібліятэкай, архівам і музеем гісторыка-культурнай спадчыны беларускага замежжа. Дзеля гэтага лічаць неабходным захаваць за згуртаваннем яе сённяшнюю сядзібу па вул. Рэвалюцыйная, 15 у Мінску і перадаць яе ва ўласнасць МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

6. Заклікаюць сяброў згуртавання і прыхільнікаў беларускай справы аказваць непасрэдную матэрыяльную дапамогу ў здзяйсненні культурна-асветных праектаў і ініцыятываў МГА "ЗБС "Бацькаўшчы.

## Зварот "Аб Радыёстанцыі Deutsche Welle"

Канцлеру Федэратыўнай Рэспублікі Германія,
у Бундэстаг Федэратыўнай Рэспублікі Германія,
у Бундэсрат Федэратыўнай Рэспублікі Германія,
да палітычных партый партыяў Германіі,
у Фонд Адэнаўэра

Шаноўны спадар Канцлер, шаноўнае Спадарства!

Мы, удзельнікі Чацвёртага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", удзячны нямецкаму ўраду і нямецкім грамадскім арганізацыям за спрыянне ў дэмакратызацыі Беларусі і дапамогу ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Выказваем падзяку кіраўніцтву Нямецкага адукацыйнага цэнтра IBB (Мінск, Беларусь), дзе адбыўся З'езд.

З'яўляючыся прадстаўнікамі беларускай сусветнай супольнасці, мы вымушаны звярнуцца да Вас, каб выправіць яўнае непаразуменне. У кастрычніку г.г. Радыёстанцыя Deutsche Welle пачынае вяшчанне на Беларусь, што несумненна палепшыць інфармацыйнае поле Беларусі. Аднак Радыёстанцыя Deutsche Welle плануе весці трансляцыю на рускай мове.

Па апошнім перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь (1999 г.) 73% жыхароў Беларусі назвалі роднай мовай беларускую, у штодзённым жыцці карыстаюцца беларускай мовай 37% грамадзян Рэспублікі Беларусь. Карыстаючыся рускай мовай у трансляцыі на Беларусь, Радыёстанцыя Deutsche Welle будзе спрыяць русіфікацыі беларускага грамадства, далейшай дыскрымінацыі беларускай мовы і знішчэнню падмуркаў нашай культуры.

Радыёстанцыя Deutsche Welle ўжо мае практыку вяшчання на нацыянальнай мове ў краінах постсавецкага лагеру, напрыклад ва Украіне. Спадзяемся, што гэтая практыка захаваецца і будзе развівацца і ў дачыненні да Беларусі.

Беларусы шчыра жадаюць жыць у вольным, дэмакратычным грамадстве, але дэмакратыя ў Беларусі немагчымая без павагі да культуры тытульнай нацыі краіны. Мы жадаем міру і шчасця народу Германіі і спадзяемся на разуменне і спрыянне высокага кіраўніцтва Нямецкай Рэспублікі. З павагай,

*Удзельнікі*
*Чацвёртага з'езда беларусаў свету*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Мінск, 16-17 ліпеня 2005 г.*

## Зварот да Урада і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь аб прыняцці закона "Аб беларусах замежжа"

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" з 1990 г. правяло чатыры з'езды беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", якія сталіся сапраўднымі нацыянальнымі форумамі па ўмацаванні лучнасці Беларусі з яе дыяспарай, абмеркаванні надзённых праблемаў беларусаў замежжа. Падчас з'ездаў беларуская дыяспара неаднаразова агучвала неабходнасць сістэмнай дзяржаўнай падтрымкі беларускіх асяродкаў за мяжой.

На Трэцім з'ездзе беларусаў свету (2001 г.) прадстаўнікі беларускай дыяспары – сябры МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" з 18 краінаў свету ўпаўнаважылі "Бацькаўшчыну" звярнуцца да дзяржаўных органаў Беларусі з просьбай прыняцця адпаведнага закона, які б рэгуляваў стасункі Рэспублікі Беларусь з яе дыяспарай. Падобнае заканадаўства ўжо даўно існуе ва ўсіх суседніх краінах. Адначасова, практыка паказвае: найгалоўнейшая ўмова існавання беларускай дыяспары – яе сувязь з метраполіяй. Адсутнасць нарматыўнай базы па супрацоўніцтву з беларусамі замежжа паскарае асіміляцыйныя працэсы ў беларускай дыяспары, вядзе да знішчэння беларускай прысутнасці ў свеце. Удзельнікі Чацвёртага з'езду беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаюцца да Урада, Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з чарговай просьбай:

1. Паскорыць прыняцце Закона, які б рэгуляваў стасункі Рэспублікі Беларусь з беларусамі замежжа і суайчыннікамі.

2. Улічыць пры распрацоўцы гэтых дакументаў прапановы і заўвагі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", накіраваныя ў Палату прадстаўнікоў, Савет Міністраў, Адміністрацыю прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у сакавіку 2004 г.

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падбор матэрыялаў і вёрстка – Зміцер Сасноўскі. Адказная за выпуск – Алена Макоўская.

Адрас рэдакцыі:
вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск
220030, Рэспубліка Беларусь
zbsb@lingvo.minsk.by; www.zbsb.org
тэл. 289-31-94

Наклад 200 асобнікаў